www.nv-online.info

№ 49 (4096)

28 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СТОП-КАДР

## Як выглядае форма беларускіх алімпійцаў?



*Учора ў Нацыянальным алімпійскім камітэце прайшла прэзентацыя параднай і спартыўнай формы для беларускай спартыўнай дэлегацыі на Алімпійскіх гульнях-2016 у Рыа.*

Пры выбары параднай экіпіроўкі перавагу аддалі калекцыі Юліі Латушкінай "Беларусь спартыўная. Сіла перамог". Пры стварэнні адзення, якое выканана ў чырвоным, шэрым і белым колерах, выкарыстаны нацыянальныя матывы, арнамент з васілька.

Калекцыя спартыўнай экіпіроўкі створана кампаніяй "Аўдзімас" і пашыта на прадпрыемстве ў Лідзе.

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## К ногам Ленина

Гомель. 23 июня. Последний день работы так называемого Всебелорусского народного собрания. Около семи часов вечера колонна автобусов с делегатами области уже въезжает на площадь Ленина. Тут их ждет вторая колонна – личных джипов. И ответственные дядечки, бросив через губу, как они плодотворно поработали, пулей убегают от журналистов к личным авто.

Памятник Ленину, справа от которого казино… «Делегаты народа», которых ждут личные джипы… Всебелорусское народное собрание, имеющее такое же отдаленное отношение к белорусам, как и жизнь, про которую на этом собрании рассказывали… Фантасмагория какая-то. Нагромождение причудливых, несочетаемых картинок и образов.

Витебск. Около шести часов вечера. После четырехчасового пути на здешнюю площадь Ленина въезжает колонна с местными делегатами. Тоже говорят, что хорошо поработали, показывают подарки – планшеты Samsung Galaxy Tab A 7.0. Розничная цена каждого – около 4 миллионов рублей. Общая рыночная стоимость всей партии планшетов для участников собрания, как уже подсчитано, – 10 миллиардов рублей (примерно полмиллиона долларов). Щедрая плата за полтора дня ничегонеделания, есть чему радоваться!

Могилев. К ногам своего Ленина подъезжают делегаты Могилевщины. Тоже довольны. «Зал был весь в одном порыве»; «В такие моменты просто чувствуешь себя частью огромного, сильного народа»; «Все, о чем говорили на собрании, применимо к каждому из нас»… Бедный Ленин! Сколько пустословия он наслушался!

Что будет говориться на собрании, спрогнозировать было несложно. Тут хорошо, там еще лучше, здесь проблемы, но от нас не зависело. И «по Вашему, Александр Григорьевич, совету», и «Вам, Александр Григорьевич, большая благодарность»... До последнего не известно было только одно слово, которое на собрании должно было прозвучать. Идеологи, политологи, пиарщики искали слово, которым можно обозвать нынешний этап развития нашего государства. Слово, опровергающее тезис о том, что Беларусь с нынешним руководством оказалась сначала в застое, потом – в глубоком кризисе, а сейчас, боясь что-то поменять «в избранном Всебелорусскими народными собраниями курсе», – уверенно идет по пути… деградации. Слово, которое призвано было доказать, что мы не плывем по течению к полному краху избранной модели, а пытаемся что-то исправить, что власть видит и понимает причины своих провалов.

«Реформы» не подходили: на слово «реформы» у Лукашенко аллергия. «Перестройка» – термин «с душком». «Модернизация» в Беларуси уже была объявлена, ознаменовалась полным крахом и дискредитацией самой идеи. Что тогда?

И это слово прозвучало – большинству непонятное слово «инновации». На пятом Всебелорусском народном собрании объявлено, что Беларусь в следующей пятилетке пойдет по инновационному пути развития!!!

Каждый понял так, как понял. Делегат от Могилева, директор гимназии-колледжа искусств Людмила Мищенко, например, сообщила: «Пусть мы занимаемся музыкой, хореографией, дирижированием, но у нас без определенных инноваций, без новых технологий тоже не обойтись…» Какая удивительная женщина! Она полагает, что если присоединить компьютер к балалайке, то мы удивим мир.

Александр Лукашенко и его опричники, впрочем, в понимании того, что такое «инновационный путь развития страны», как я подозреваю, ушли не дальше. Потому что инновационный путь начинается не с компьютера, не с новенького планшета, подаренного делегатам, и даже не с передовых научных разработок. Как правильно заметил директор «Агентства деловых связей» Валентин Лопан, если бы Стив Джобс изобрел «Apple» в Беларуси, то, кроме проблем с правоохранительными и контролирующими органами, ничего бы не поимел. А это значит, что развиваться стране, бизнесу, творческому потенциалу людей не позволяет существующая система власти, политика тех, кто у ее руля. То есть инновационный путь развития надо начинать не с планшета в кармане, а с серьезных изменений – инноваций – в государственном управлении.

Для сведения: «novatio» на латыни – «обновление», «изменение»; приставка «in» переводится как «в направлении». То есть дословно «innovatio» – «в направлении изменений». Причем инновация – это не всякое новшество или нововведение, а только такое, которое серьезно повышает эффективность действующей системы. Что на Всебелорусском собрании было сделано для того, чтобы у нас изменилась власть, политика государства? НИ-ЧЕ-ГО! Александр Лукашенко заикнулся было, что госаппарат надо сокращать (это не инновации, конечно, это уже просто необходимость), но министр труда и социальной защиты, руководитель предвыборного штаба президента на последних выборах Марианна Щеткина даже в этом, малом, не побоялась президента поправить: мол, нельзя в таком важном деле рубить с плеча…

На том, собственно, разговор об изменении системы государственного управления и закончился. То есть о самом важном, о главном, даже не говорили. Делегаты полтора дня либо помалкивали, либо твердили, как мантру, что у нас все хорошо, что идем правильным курсом, и довольные, с подарками, символично вернулись каждый к ногам своего Ленина. К своим джипам. За них, конечно, можно порадоваться. А страну жалко…

ФАКТ

## Звольнілі на 70 тысяч работнікаў больш, чым працаўладкавалі

За першыя пяць месяцаў 2016 года прадпрыемствы звольнілі амаль 277 тысяч работнікаў, прынялі – каля 207 тысяч чалавек. Пра гэта сведчаць дадзеныя афіцыйнай статыстыкі.

Найбольшыя скарачэнні супрацоўнікаў за студзень–май зафіксаваны ў прамысловасці і будаўніцтве – тут колькасць звольненых работнікаў перавысіла колькасць прынятых на 25 тысяч і 13,8 тысячы работнікаў адпаведна.

Пры гэтым варта адзначыць, што разам са скарачэннем кадраў прадпрыемствы пераводзілі сваіх супрацоўнікаў на няпоўны працоўны тыдзень. Так, згодна з афіцыйнай статыстыкай, у студзені–маі ў Беларусі на няпоўны працоўны час было пераведзена 123,4 тысячы работнікаў, у тым ліку ў маі ў рэжыме няпоўнай занятасці працавалі 52,5 тысячы чалавек.

## Над Мінскам праляцяць расійскія бамбардзіроўшчыкі

У паветранай частцы ваеннага парада ў Дзень Незалежнасці Беларусі 3 ліпеня ў Мінску возьмуць удзел расійскія бамбардзіроўшчыкі і знішчальнікі Су-34 і Су-30, паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы Міністэрства абароны Уладзімір Макараў.

На пытанне, ці ўдзельнічалі экіпажы гэтых самалётаў у баявых дзеяннях у Сірыі, прадстаўнік Мінабароны Беларусі не адказаў.

Паводле слоў Макарава, усяго ў правядзенні і забеспячэнні ваеннага парада задзейнічаны прыкладна 5 тысяч чалавек, непасрэдна ў парадзе возьмуць удзел прыблізна 3100 ваеннаслужачых.

## Ля Кобрына з'явіліся вікінгі

*На Мухавец спусцілі карабель, на якім падарожнічалі скандынавы.*

Дракар – драўляны вузкі карабель. У часы сярэднявечча яго гаспадарамі былі вікінгі, якія ў тым ліку падарожнічалі і па беларускіх рэках. Цяпер кожныя выхадныя на дракары змогуць пракаціцца турысты, якія адпачываюць у раёне Кобрына. Перад стартам карабель паспяхова прайшоў выпрабаванні і атрымаў адпаведную катэгорыю. Пры жаданні на ім можна выходзіць і ў мора. Хоць, натуральна, далёка ад берага не адыходзіць.

Карабель быў пабудаваны ў рамках праекта "Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё", які рэалізуе Праграма развіцця ААН. Заяўку падавала "Мухавэцька кумора" – турыстычны кластар, які аб'ядноўвае турыстычныя аб'екты Кобрынскага і Жабінкаўскага раёнаў.

Карабель разлічаны на 12 пасажыраў. Яго вага – 1,8 тоны.

**Васіль СТАСЕВІЧ.**

НУ І НУ!

## Беларусь абагнала ўсю Еўропу па росце цэн на газ



Як вядома, зараз паміж Расіяй і Беларуссю ідуць перамовы наконт далейшых цэн на газ. Расія не хоча даваць зніжку, а афіцыйны Мінск не хоча плаціць шмат, таму пастаўкі могуць быць зменшаны.

Тым часам, як сведчаць даследаванні расійскага «РИА Рейтинг», што ўваходзіць у медыягрупу «Россия сегодня», з пачатку 2016 года прыродны газ падаражэў для Беларусі ў нацыянальнай валюце на 24,6%.

Цэны на газ выраслі не толькі для Беларусі, але і для іншых краін, але беларускае падаражанне на 24,6% абагнала ўсе астатнія. Так, для Казахстана цэны на газ выраслі на 16,7%, для Украіны – на 14,8%, для самой Расіі – на 8%. Для некаторых жа краін цэны знізіліся: для Эстоніі – на 22,1%, для Балгарыі – на 19,2%, для Даніі – на 13% і гэтак далей.

Як адзначае выданне, у Еўропе ў 2015 годзе павялічыўся попыт на газ, але цэны пры гэтым зніжаліся, бо прапанова расла хутчэй за попыт. Паводле звестак МВФ, цана расійскага трубаправоднага газу на мяжы з Германіяй за 2015 год знізілася на 30%.

СМУТКУЕМ...

## Дзве смерці ў адзін дзень

*Нядзеля прынесла адразу дзве чорныя навіны: у адзін дзень памерлі вялікі акцёр* ***Расціслаў Янкоўскі*** *і знаны кампазітар і дырыжор, былы дырэктар і мастацкі кіраўнік оперы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета* ***Сяргей Картэс.***
*Дзве велічыні, дзве легенды, два народныя артысты, дзве Асобы...*
*Светлая памяць!*





МИРОВАЯ НОВОСТЬ

## Эрдоган извинился за сбитый российский самолет

*В обращении президента Турции Реджепа Эрдогана к российскому коллеге Владимиру Путину также высказывается готовность восстанавливать отношения с Россией.*

– У нас никогда не было желания и заведомого намерения сбить самолет, принадлежащий России, – приводит содержание письма пресс-служба Кремля. – Взяв на себя все риски и приложив большие усилия, мы забрали тело погибшего российского пилота у сирийских оппозиционеров и привезли его в Турцию. Организация предпохоронных процедур была проведена в соответствии с религиозными и военными процедурами.

Вся эта работа была проведена нами на уровне, достойном турецко-российских отношений. Я хочу еще раз выразить свое сочувствие и глубокие соболезнования семье погибшего российского пилота и говорю: извините. Всем сердцем разделяю их боль. Семью российского пилота мы воспринимаем как турецкую семью. Во имя облегчения боли и тяжести нанесенного ущерба мы готовы к любой инициативе.

В письме указано, что в отношении гражданина Турции, которого обвиняют в смерти российского пилота, начато и ведется судебное расследование.

В послании также отмечается, что Россия является для Турции другом и стратегическим партнером, с которым турецкие власти не хотели бы портить отношения.

НАДВОР'Е



## Рэкорд за рэкордам

У мінулую нядзелю 26 чэрвеня ў Беларусі быў усталяваны новы тэмпературны рэкорд дня. У Драгічыне, што на Брэстчыне, паветра прагрэлася да 33,7°С. Перад тым максімальная тэмпература для 26 чэрвеня была зафіксавана ў 1979 годзе ў Вілейцы на Міншчыне – тады максімум складаў 33,2°С.

Дарэчы, новыя рэкорды дня былі пастаўлены таксама ў Мінску і ўсіх абласных цэнтрах, за выключэннем Гомеля.

Напярэдадні, у суботу, у Мінску таксама быў пабіты тэмпературны рэкорд дня 102-гадовай даўніны, а таксама новыя максімумы былі зафіксаваны ў Брэсце і Гродне.

Сёння надвор'е дасць беларусам перадышку – спякота спадзе. У Мінску чакаецца ўсяго +22°С. Але з серады зноў будзе горача, у суботу па краіне чакаецца +30…+32°С.

